# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 14 (1049) ГОД XXI 4 КРАСАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76



*Аляксандра Кісялеўская з Нараўкі заняла II месца сярод салістаў у катэгорыі фальклорнай песні.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## VIII З'ЕЗД БГКТ — БАНК ДУМАК

## ГУРТКІ І ГУРТОЧКІ

Дзейнасць гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства складаецца з:

— яго ўласных магчымасцей,

— дапамогі яму з боку Галоўнага праўлення таварыства ды зацікаўленых беларускай праблематыкай арганізацый і ўстаноў.

Уласныя магчымасці ў дзейнасці гуртка БГКТ — гэта якасны ўзровень грамадскага запалу яго членаў і іх аўтарытэт у родным асяроддзі. Адно і другое знаходзіцца ў сціслай залежнасці ад структуры арганізацыі грамадска-гаспадарчага жыцця краіны. Цалкам іначай выглядаюць такія магчымасці ў перспектыўных вёсках, тыпаваных на ўзбуйненне, а таксама ў гмінных мястэчках. Там адбываецца і будзе адбывацца канцэнтрацыя спецыялістычных кадраў і наогул таленавітых адзінак, якім мала маштабаў адной гаспадаркі, адной звычайнай вёскі.

Гурткоў нашага таварыства налічваецца сто восемдзесят сем. Галоўнае праўленне мае восем інструктарскіх штатных адзінак і некалькі паўштатных. Супастаўленне гэтых лікаў насоўвае вывад: п а с т а я н н а я дапамога ўсім гурткам з'яўляецца немагчымай. Толькі спарадычная!

Чую голас: *„Ты, Сакрат, забыўся пра актыў Галоўнага праўлення БГКТ, які дапаможа і павінен дапамагчы...“* Ажно просіцца пытанне, *„Актывіст — што гэта?“* Адказ: актывіст — гэта такі член нашай арганізацыі, які частку свайго дня, тыдня, месяца, бескарысліва прысвячае яе патрэбам. Падкрэсліваю — ч а с т к у!

Разам з тым неабходна памятаць, што даны актывіст, калі можна так сказаць, найболей функцыянальным з'яўляецца ва ўласным або блізкім яму асяроддзі.

Частковасць, фрагментарнасць ролі паасобных актывістаў у дзейнасці цэлага нашага таварыства патрабуе іх мнагалікасці. Таму прапаную вылучыць пэўную колькасць гурткоў БГКТ, прыкладна, пяцьдзесят, дзеля таго, каб накіраваць да іх увесь важкі патэнцыял, што знаходзіцца ў распараджэнні Галоўнага праўлення таварыства, з мэтай пераўтварэння гэтых гурткоў у болей ці меней імпульсіўныя ачагі беларускага грамадска-культурнага руху. Датычыла б гэта, вядомая справа, тых гурткоў БГКТ, якія існуюць у перспектыўных вёсках або гмінных мястэчках. З параўнаўча невялікімі выключэннямі. (Дарэчы будзе адзначыць, што па падобнаму прынцыпу дзейнічалі стабільныя аддзелы БГКТ, мілейчыцкі і гайнаўскі).

Пры такім вырашэнні, на маю думку, можна разлічваць на новае папаўненне радоў актыву БГКТ з ліку настаўнікаў гмінных зборных школ, работнікаў гміннай адміністрацыі, палітычных дзеячоў і г.д. Пры нагодзе важна будзе адзначыць, што дагэтуль такі метад абмяжоўваўся пераважна асяроддзямі павятовых цэнтраў.

Выкарыстоўваючы натуральныя ўмовы стварэння сузор'я гурткоў БГКТ з характэрнай ім інтэнсіўнай актыўнасцю, рэшта арганізацыйных гурткоў мела б мерытарычна філіяльнае значэнне ў зносінах з імі. У полі прыцягнення буйных гурткоў таварыства знаходзіліся б тры-чатыры гурткі з суседніх вёсак, у якіх, па аб'ектыўных прычынах, адсутнічаюць шанцы на поўны асартымент грамадскай работы ў яе галоўных палажэннях; у так званых

(Працяг на стар. 2)

## СУПОЛЬНА — ЛЕПШ

Новае ў Дарожкі прыйшло тады, калі першыя 18 сем'яў уступіла ў сельскагаспадарчую прадукцыйную спулдзельню (РСП) і перадало ў супольнае карыстанне 130 га зямлі. Цяпер дарожкаўская спулдзельня надае тон жыццю вёскі і акругі. Дарожкаўцы маюць вясковы дом культуры, а ў ім бібліятэку, сцэну і даволі прасторную кіназалу. Усе жыхары маюць ваду з крана. Праз вёску вядзе роўны брук. Ёсць злеўня малака, крама. Усё гэта атрымалі дарожкаўцы дзякуючы спулдзельні. І яшчэ шмат што атрымае вёска. Будуць пракладзены тратуары, будзе пабудаваны курортны цэнтр над ракою непадалёку ад вёскі, дзіцячая пляцоўка для гульняў.

Калі ісці або ехаць у вёску ад шашы Беласток-Бельск праз Юхновец, злева ўбачым новы адміністрацыйны будынак спулдзельні. У вочы так і кідаюцца свежай шалёўкай дамы членаў спулдзельні. Амаль пасярэдзіне вёскі за злеўняй малака спулдзельчыя аборы, гаражы, магазіны, сіласы. Рэшта спулдзельчых будынкаў знаходзіцца за вёскай Чараўкі. Ёсць навюсенькая абора на 920 свіней, побач яе кармавая база, кацельная. Яшчэ ў гэтым годзе стануць тут сцены другой такой аборы. З часам спулдзельня пачне гадаваць не менш 3000 свіней. Вядома, для такой колькасці жывёлы патрэбна многа вады. Таму ўжо ідзе пабудова глыбіннай (артэзіянскай) студні. На гэтай пляцоўцы спулдзельня пабудуе яшчэ абору для 200 кароў. Ужо распачата пабудова жылых кватэр, а крыху пазней стане сталовая і дзіцячыя яслі. Словам, шмат што тут будуецца. Як у ніводнай іншай спулдзельні Беластоцкага ваяводства.

Вернемся аднак да дзейнасці дарожкаўскіх спулдзельцаў.

Кааператыў налічвае 65 членаў. Лік членаў пастаянна расце. У мінулым годзе ўступіла 11 новых членаў і ў пачатку гэтага года наступныя пяць. РСП гаспадарыць на 492 га, а ўжо ў 1980 годзе будзе іх мець 712. Збожжа збірае ў сярэднім 26 цэнтнераў з гектара, бульбы — 166 ц/га, цукровых буракоў — 475 ц/га, сена — 90 ц/га. Такога ўраджаю не дабіваюцца тут паасобныя гаспадары. Праўда, спулдзельцы падсяваюць звыш 250 кілаграмаў НПК у чыстым складніку.

Спулдзельня шырока разгарнула гадоўлю брайлераў (раса курэй). Мае іх 40 тысяч на фермах у Астраўках і Плёсках. Птушкагадоўля пакуль што найбольш даходная. У 1975 годзе РСП прадала 257 тон курынага мяса. Гадуюць яшчэ спулдзельцы 158 кароў (найбольш расы „нцб“) і пакуль што каля двухсот свіней. Надойваюць па 3 386 літраў малака ад каровы ў год (сярэдняя ваяводская ў РСП 2400 літраў). Каб не спадала малочнасць красуль, нарыхтоўваюць для іх каля 300 тон сіласу. Сёлета будуць дадаткова сіласаваць кукурузу. У мінулым годзе члены кааператыва прадалі са сваіх прысядзібных участкаў 49 тон хатняй жывёлы. Варта дадаць, што даход ад гэтай „хатняй“ гаспадаркі амаль поўнасцю забяспечвае штодзённыя патрэбы спулдзельцаў. Гадуюць яны кароў, свіней, гусей або курэй. Нічога дзіўнага, што членам РСП у Дарожках найлепш жывецца. Набылі яны сабе пралькі, халадзільнікі, тэлевізары, амаль у кожным доме ёсць ванная. Трое спулдзельцаў купіла сабе нават самаходы. Гаспадыням вялікая выгада — вада з крана. Але захацелі яны яшчэ карыстацца газавымі пліткамі і ўжо зрабілі заказы.

Дарожкаўская РСП дапрацавалася супольнай трывалай маёмасці вартасцю ў трыццаць з палавінай мільёнаў злотых. Мінулы год закончыла даходам у 2 млн. 300 тыс. зл. Прадала яна дзяржаве спажывецкіх прадуктаў на 9 млн. зл. Звыш двух мільёнаў злотых адложана на запас. Капітал гэты дазволіць спакойна перажыць самы люты трохгадовы неўраджай.

Усе прыведзеныя лікі адлюстроўваюць вялікае багацце, накопленае супольнай, добра наладжанай і прадуманай працай. У мінулым годзе на адзін

(Працяг на стар. 2)



*На спулдзельчым панадворку ў Чараўках рабочыя гідрагеалагічнага прадпрыемства будуюць артэзіянскую студню.*

## ДРУЖБА НАРАДЖАЕЦЦА ЛЯ СТАНКОЎ

Калі засвеціць сонца, дык на фоне белага снегу гэты завадскі корпус ужо здалёк красуецца цёмначырвоным колерам сцен. Вакол яшчэ калдобіны, тырчаць забытыя абломкі дошак і нейкіх труб. Відаць, што тут ідзе яшчэ будова. Прадпрыемства аднак ужо распачало сваё самастойнае жыццё. Працуе ад лютага 1976 года.

Гэты новы корпус вядомага металаапрацоўчага камбіната „Ухвыты“, які прадукуе станковыя патроны — значыць, гэтыя састаўныя часткі абсталявання, без якіх не абыйдзецца ні такарны, ні шліфавальны, ні ўсялякі іншы металарэжучы станок.

Новы корпус... Прастор і сучасная тэхніка. Шкло і стальныя канструкцыі...

Сакратар завадскога камітэта партыі Казімір Лузняк гаворыць мне:

— Цяперашнія „Ухвыты“ пачынаюць сваю аўтабіяграфію ад адбудовы рукамі рабочых некалькіх маленькіх ды зусім разбураных майстэрняў. Цяпер нашы вырабы здабылі прызнанне спецыялістаў-тэхнолагаў сваёй высокай якасцю. 67 працэнтаў прадукцыі прадаем мы за мяжу ў многія краіны. Найбольш у Савецкі Саюз. У 1972 годзе быў падпісаны шматгадовы міжурадавы дагавор на пастаўку станковых патронаў у Савецкі Саюз.

Тут трэба дадаць, што менавіта такі экспарт з эканамічнага пункту гледжання найбольш карысны, бо прадаем мы не сыравіну, а нашу працу і думку. Ды на дадатак — гэта экспарт пастаянны, а яго размеры акрэсліваюцца сотнямі мільёнаў злотых. І таму неабходна было будаваць гэты новы завод.

— Станковыя патроны, якія мы пастаўляем у Савецкі Саюз, адзначаюцца высокай дакладнасцю, — гаворыць інжынер Вацлаў Кашыцкі, які адказвае за тэрміновы пуск новага аб'екта. Вартасць гадавой прадукцыі новай фабрыкі складзе амаль 420 мільёнаў злотых.

Міхал Піўка — гэта адзін з старэйшых рабочых камбіната. Партыйны актывіст і грамадскі дзеяч. Не адзін раз бываў ужо ў Савецкім Саюзе, сустракаўся з таварышамі па прафесіі. Пытаю яго аб уражаннях.

(Працяг на стар. 2)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

# ХРОНІКА

■ Набліжаецца да канца справаздачна-выбарная кампанія БГКТ. Большасць гурткоў ва ўсіх гмінах выбрала ўжо новыя праўленні і дэлегатаў на VIII з'езд БГКТ, які адбудзецца ў канцы мая.

У апошні час шмат сходаў БГКТ адбылося ў гміне Гарадок.

■ У Коматаўцах на справаздачна-выбарным сходзе бэгэкатоўцы ў склад новага праўлення выбралі: Лідзію Стрышко — старшынёй, Яўгенію Мікуць — сакратаром, Софію Андрушкевіч — скарбнікам, Надзею Ярош — членам праўлення.

■ У Скрабляках новае праўленне складаецца з наступных асоб: Павел Тамашэвіч — старшыня, Леакадзія Налівайка — сакратар, Марыя Тамашэвіч — скарбнік і Яўгенія Кудзеля — член праўлення. Дэлегатам на з'езд ад двух вышэй адзначаных гурткоў выбрана Анастасію Дудзенка.

■ У Зубрах пасля абмяркоўкі сваёй дзейнасці прысутныя выбралі новае праўленне ў складзе: Уладзімір Семянчук — старшыня, Зінаіда Смолей — сакратар і Генрык Гайдучэня — скарбнік.

■ Свіслачанскі гурток БГКТ, зацвердзіўшы план працы, прыступіў да выбараў. Праўленне гуртка выбрана: Аляксандр Лаўрыш — старшыня (ён таксама дэлегат на з'езд), Ніна Дзярманская — сакратар, Мікалай Гапунік — скарбнік.

■ 7 сакавіка гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў урачысты вечар прысвечаны Міжнароднаму дню жанчын. З дакладам выступіў Янка Крупа. Пасля на сцэну ўвайшлі з мастацкай часткай члены харавога калектыву „Каласкі". Затым адбылася танцавальная вечарына. (мх)

# ГУРТКІ І ГУРТОЧКІ

(Працяг са стар. 1)

салтысоўскіх вёсках, у якіх, як ужо заўважаю, не выключае карысных адхіленняў.

Знікненне малых сяленняў у сувязі з працэсамі канцэнтрацыі вытворчасці ў сельскай гаспадарцы паставіць перад намі пытанне, як арганізоўваць дзейнасць вялікіх буйных гурткоў БГКТ? Гэта, аднак, яшчэ справа недалёкай будучыні. Тым часам у гарадскіх асяродках гэтае пытанне ўжо здаўна чакае свайго вырашэння; маю на ўвазе перш за ўсё Беласток, а таксама Бельск, Гайнаўку або Саколку. Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку, для прыкладу, расце нам з нечуванай раней хуткасцю (выхадцы з вёсак масава наведваюць клуб таварыства на вуліцы Варшаўскай 11). Што рабіць? Было б, мабыць, сэнсоўным утварэнне, пакуль на правах эксперыменту, філіяльных грамадскіх цэнтраў беларускай культуры ў выбраных клубах ды дамах культуры, што знаходзяцца ў паасобных кварталах горада. Мы ўжо апынуліся ў альтэрнатыўным становішчы прыкрага нам бязвыйсця неабходнасці штучнага тармажэння развіцця Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў горадзе Беластоку і некаторых даўніх павятовых гарадах. Гэта, вядома, крыху асобная справа, напэўна спецыфічная ў параўнанні з этнічна кампактнай тэрыторыяй правінцыі. Патрэбны адпаведныя ўзгадненні з адміністрацыйнымі ўладамі, з гарадскімі аддзеламі культуры, якія праводзяць нагляд над дзейнасцю клубаў і дамоў культуры. У сучасны момант Беластоку ўжо патрэбны прынамсі тры гурткі замест аднаго ў выглядзе амаль тысячнага гарадскога аддзела БГКТ.

**Сакрат Яновіч**

## ЗАПРАШАЕМ У ТЭАТР

На вялікай сцэне Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ідзе п'еса рускага сучаснага драматурга Аляксандра Вампілава пад загалоўкам „Прошлым летам у Чулімску".

А. Вампілаў, які нарадзіўся ў 1937 годзе, расславіўся перш за ўсё п'есай „Іркуцкая гісторыя". Памятаю, што год таму назад, калі я быў у Маскве, на гэтую п'есу нельга было дастаць білетаў.

На жаль, таленавітага драматурга няма ўжо ў жывых. Асталіся сцэнічныя творы, якія пастаянна ідуць у тэатрах Савецкага Саюза і за мяжой.

Беластоцкі тэатр паказаў нам цікавую, драматычную п'есу „Прошлым летам у Чулімску". Яе дзеі на працягу ледзь двух дзён разыгрываюцца ў невялічкім пасёлку, закінутым недзе далёка ў бязмежных лясных прасторах тайгі. Аднак справы, якія тут разглядаюцца, адносяцца да вельмі важных праблем у жыцці чалавека, яго адносін да другіх людзей і да грамадства. У некалькіх словах гэтага не перакажаш. Дык лепш самаму пабываць у тэатры.



*Сцэна са спектакля „Прошлым летам у Чулімску".*

Рэжысёрам беластоцкага спектакля з'яўляецца Ірэна Гурская, якая гэтай пастаноўкай адзначае саракагоддзе сваёй працы ў тэатры. Варта яшчэ адзначыць, што ў гэтым спектаклі найбольш падабаецца гледачам Збігнеў Бесерт, які іграе тут ролю адзінокага дзядулі Ермалаева. Цікава, перакануча іграе таксама Эльжбета Мірась, якая ў гэтым спектаклі выступае ў ролі маладзенькай дзяўчыны Валі. (вр)

(Працяг са стар. 1)

# ДРУЖБА НАРАДЖАЕЦЦА ЛЯ СТАНКОЎ

— Усе мы жывем амаль на аднолькавым узроўні. Я зарабляю тут 5-7 тысяч злотых у месяц. І мае савецкія сябры з Кіева, Данбаса і іншых гарадоў ганарацца таксама высокімі зарплатамі. У нас людзі жывуць добра і там усяго хапае. Такія ў мяне ўражанні ад кантактаў з савецкімі таварышамі. А цяпер вось я шліфую састаўныя часткі для станковых патронаў, якія паедуць у Маскву, на станкапабудоўчы завод. І гэта нас асабліва абавязвае да высокай якасці працы.

Пры суседнім шліфавальным станку ўбачыў я невялікага росту, сярэдніх гадоў жанчыну.

— Лідзія Януцік, шліфавальшчыца, ва „Ухвытах" ад 1961 года, — адрэкамендавалася яна. — Дапасоўваю таўшчыню праваднік з дакладнасцю ў 15 мікронаў, — падала яна з прафесіянальнай дакладнасцю.

Аказваецца, што Лідзія Януцік таксама мае шмат асабістых сяброў у Савецкім Саюзе, асабліва ў Брэсце, дзе жыве яе дваюрадны брат.

— Езджу туды кожны год. Падабаецца мне ў іх, жывуць яны выдатна, але, — тут жа дадае яна, — і мы не горш...

Гавару яшчэ і з іншымі рабочымі, з інжынерамі. Расказваюць мне аб цягніках і аўтобусах дружбы, якімі яны адпраўляюцца ў Савецкі Саюз, аб дзейнасці завадской арганізацыі Таварыства польска-савецкай дружбы... А тыя, пераважна маладыя, рабочыя, якія яшчэ не паспелі пабываць за ўсходняй мяжой, выяўляюць шчырае зацікаўленне Краінай Саветаў.

— Мне імпануе перш за ўсё савецкая тэхніка, — кажа адзін...

— А я захапляюся савецкімі спартсменамі. Гэта ж сіла! — кажа другі...

Найважнейшае аднак — гэта тое, што ствараецца ля станкоў, — тут, ва „Ухвытах", і не толькі тут. Канкрэтная, мірная штодзённая праца і свядомасць, чаму яна служыць. Так менавіта мацуецца наша дружба.

**Віктар Рудчык**

# Супольна — лепш

(Працяг са стар. 1)

працадзень выпала па 120 злотых. У гадавым падліку на кожную сям'ю выйшла ў сярэднім 72 тыс. зл. Але калі з той ці іншай сям'і працавалі дзве або тры асобы, дык у сямейную скарбонку прыгарнулі звыш ста тысяч злотых. Да такіх належаць сем'і: Віктара Ярошука (131 тыс. зл.), Фёдара Мазурчука (109 тыс. зл.), Фёдара Матвейчука, Мікалая Бартошука, Пятра Семенчука і іншых. Цяпер спулдзельцы маюць платныя водпускі. Праўленне кааператыва прадбачвае ў сваім бюджэце выдаткі на арганізаванне Дня жанчын, Першамая, Свята Адраджэння, дажынкаў, краязнаўчых экскурсіяў. Калі хто новы прыходзіць да працы або пачынае будаваць сабе дом, той атрымлівае ад спулдзельні грашовую ўспамогу.

Спулдзельцы з Дарожак не жывуць з думкаю толькі аб сабе, як прыклад такога разумення — гэта арганізацыя кожны год дзяцінцаў на час руплівых палявых работ для дзяцей з усяе вёскі. Не хто іншы, а спулдзельцы дапамагаюць сваімі машынамі ўправіцца аднавяскоўцам з уборкай збожжавых ці з сяўбою.

У заканчэнні хочацца назваць прозвішчы найбольш адданых шматгадовых працаўнікоў спулдзельні. Да такіх належаць: галоўны бухгалтар Таццяна Шпіца, кіраўнік прадукцыі інж. Мікалай Шпіца, старшыня спулдзельні Аляксандр Вішнеўскі, Фёдар Мазурчук, Мікалай Трахімчук, Фёдар Матвейчук, Эльжбета Матвейчук, Анна Мінеўская.

Так у нешматлікіх словах расказалі мы аб дарожкаўскіх спулдзельцах. Яны — адны з самых актыўных у Беластоцкім ваяводстве. І пішам пра іх таму, што заслугоўваюць на гэта.

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара

# ШТО НОВАГА?

## НОВАЯ „ВЕРСІЯ" АБ СУСВЕТНЫМ ПАТОПЕ

З даволі фантастычнай гіпотэзай, якая імкнецца вытлумачыць многія загадкі далёкага мінулага нашай планеты, выступіў японскі вучоны Мінору Такахасі. Ён, спецыяліст у галіне ядзернай энергетыкі, зыходным пунктам для сваіх вывадаў выбраў міфы і легенды розных народаў аб сусветным патопе. Расцэньваючы іх як водгаласы сапраўдных падзей, вучоны выставіў ідэю, што, акрамя вядомых ужо планет сонечнай сістэмы, вакол нашага свяціла па вельмі выцягнутай эліптычнай арбіце рухалася (а можа, і цяпер рухаецца) яшчэ адна, не заўважаная раней планета. Аднак у адрозненне ад іншых планета „М" (як назваў яе вучоны) з'явілася ў Сонечнай сістэме з глыбінь космасу і складалася ў асноўным з лёду і вады.

На працягу тысячагоддзяў „М" неаднаразова набліжалася да Зямлі, якая сілай свайго прыцягнення захоплівала з „суседкі" велізарныя масы вады і лёду. Такім чынам, сусветныя патопы паўтараліся неаднаразова. Не выключана, лічыць вучоны, што зараджэнне жыцця, гібель дыназаўраў і мамантаў — усё гэта вынікі ўплыву „М" на нашу планету.

Калі ж Мінору Такахасі спыталі, чаму загадкавую планету ён назваў „М", вучоны сціпла адказаў: „Гэта мой ініцыял"...

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 3.IV.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 7.00 Fiz. 7.30 Bot. 8.40 Red. szk. zap. 8.50 Pr. I prop. 9.05 Pr. dnia. 9.10 Ile jest życia — film ser. 10.00 Pr. dla najmł. kl. I—III. 10.05 Pr. rozr. 11.05 Dla szkół: Geogr. kl. VIII. 11.35 Pr. rozr. 12.10 Podarunki — teletur. 13.00 Studio 2.

**Niedziela — 4.IV.** 6.25 Tech. Rol. Fiz. 6.55 Bot. 7.25 Kurs. Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.55 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 W Starym Kinie. 12.00 Dzien. 12.20 Pr. muz. 13.10 Przegl. pol. 13.40 Pasja, przygoda, ryzyko. 14.25 Piórkiem i węgl. 14.50 Dla dzieci. 15.35 Los. Duż. Lot. 15.50 Słuchamy oceniamy. 17.05 Sport. 18.00 Refl. ob. 18.15 L. Kydryński przedst. Sylvie Vartan. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Ile jest życia — film ser. 21.25 Pr. rozr.

**Poniedziałek — 5.IV.** 10.00 Ile jest życia — film ser. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Echo stad. 18.00 Marzenia a rzeczywistość — film ser. 19.00 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Ile jest życia — film ser: 21.15 Świadkowie. 21.45 Dzien. 22.00 Wieczorny gość — J. Kobuszewski. 22.30 Konfrontacje.

**Wtorek — 6.IV.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 8.00 Ile jest życia — film ser. 10.30 Marzenia a rzeczywistość — film ser. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i mał. ekr. 17.30 Gosp. i ja. 17.45 Studio Mł. 18.50 Wenus, zero absolutne i wirusy. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Ile jest życia — film ser. 21.20 Świat i Polska. 22.05 Dzien. 22.20 Pr. publ. kult.

**Środa — 7.IV.** — 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 7.30 W drodze do nowego. 8.00 Ile jest życia — film ser. 11.05 Dla szkół: Hist. kl. VII. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.40 NURT. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Obiektyw. 16.50 Co to jest. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.35 Spotk. z medycyną. 18.10 Jazz nad Odrą. 18.35 Pol. Film Dok. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Ile jest życia — film ser. 21.15 Publ. sport. 21.45 30 minut dla orkiestry Pol. Radia i TV. 22.20 X Y Z cz. I. 23.00 Dzien.

**Czwartek — 8.IV.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 11.30 Ile jest życia — film ser. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.40 Upr. roślin. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Brat. 18.05 Poligon. 18.30 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.35 Przyp., radz. 20.40 Ile jest życia — film ser. 21.25 Pegaz. 22.10 Dzien. 22.25 Spotk. przy fort. 23.00 Sport.

**Piątek — 9.IV.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Ile jest życia — film ser. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Zrób to sam. 17.55 Bank 440. 18.35 Wyspa małp — film dok. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.35 Domy z deszczu — film. 21.30 Drogowskazy. 22.15 Dzien. 22.30 Recital Z. Sośnickiej.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 2.IV** — 7.30 Film fab. 14.50 Film fab. 19.30 Spiewa I. Archipowa. 20.35 Gimnastyka. Zawody międzynar.

**Sobota 3.IV** — 9.50 Koncert. 12.40 Film fab. 14.40 Cyrk. 15.00 W świecie zwierząt. 17.30 Spektakl teatr. 20.35 Gimnastyka. Zawody międzynar.

**Niedziela 4.IV** — 12.35 Film fab. 14.00 P. nożna. Dynamo (Tbilisi) — CSKA. 15.45 Panorama międzynarodowa. 16.15 Filmy anim. 16.45 Film fab. 18.00 Klub film. 19.30 Gimnastyka. Zawody międzynar.

# КІНО

**Białowieża** Dni miłości — meks. 6—7. Niespokojne morze — czes. 8—9. Opadły liście z drzew — pol. 10—11.

**Czyże** Kartka z młodzieńczych lat — radz. Zasadzka — rum. 7—11.

**Dubicze Cerkiewne** Polska gola! — pol. Odstrzał — USA. 7—11.

**Gródek** Zaklęte rewiry — pol. 7—11.

**Kleszczele** Tajemnica Aleksandra Dumasa — czes. 6—7. Śmierć na zakręcie — NRD 8—9. Dzień szakala — ang. 10—11.

**Michałowo** Generał śpi na stojąco — wł. 6—7. Englantine — fr. 8—9. Strach — pol. 10—11.

**Mielnik** Ciemna rzeka — pol. 7. Ostatni seans filmowy — USA. 10—11.

**Milejczyce** Pokój przechodni — NRD. 6—7. Królewskie marzenie — USA 8—9. Trzy godziny miłości — jug. 10—11.

**Narew** Aresztuję cię przyjacielu — fr. Zielona ściana — per. 7—11.

**Narewka** Kochankowie roku pierwszego — czes. Śmiałość — radz. 7—11.

**Nurzec** Marysia i krasnoludki — pol. 6—7. Tomcio Paluch — fr. 8—9. Osaczeni w dolinie — czes. 10—11.

**Orla** Szczęśliwego Nowego Roku — fr. Sześć niedźwiadków i klown Cebulka — czes. 7—11.

**Rajsk** Kobieta z lancetem — radz. Peppino podbija Amerykę — wł. 7—11.

B.Z.Graf. Zam. 753 F-2

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 207


* ✲ *

*Каралеўства нашага шчасця*
*як прырода вялікае*
*у ім ёсць многа спраў*
*і многа працы*
*тут нашы сілы не змарнуюць*
*мы запражэм іх да змагання*
*і скарыстаем для багацця*
*для перамены краявіду*
*вакол нас вырастуць прысады*
*дарогі пабягуць у радасць*
*і шчасце цёплае загосціць*
*бог нават будзе нам зайздросціць*

**Алесь Барскі**

* ✲ *

*памяці Ф. Г. Лоркі*

Ноч, як страшная катоўня.
Дом чырвоны — месяц ўпоўні
Ды па вуліцах пагоня
На чырвона-чорных конях.

Вяжуць кнігі, паляць песні
(застанецца многа надзень).
Ноч — чырвоная чарэшня —
Дагарае у Гранадзе.

Горад —
ад насілля аслабелы,
змучаны ад крыку: —
„Фэдэрыка!“
„Фэдэрыка!“

Ноч прайшла. І краявід
(лепш, каб вочы не глядзелі)
пачынаўся чалавекам
і шклянкай крыві,
разлітай пры ім.
І паслася смерці хуткай газель.

**Ян Чыквін**



## Янка Брацкі

**(АНАТОЛЬ ВЕРАМЕЮК)**



Мне 18 год, паходжу з вёскі Аўгустова, што на Бельшчыне. Тут закончыў я пачатковую школу, у якой сустрэў і пазнаў красу беларускай мовы. Вельмі я ўдзячны настаўнікам беларускай мовы ў пачатковай школе: Я. Анісько, які вучыў мяне ставіць першыя беларускія літары, а таксама В. Малішэўскай. Цяпер я вучань IV класа беларускага ліцэя ў Бельску. Першыя вершы напісаў я будучы ў VIII класе пач. школы.

### ВІЕТЁР ЗІМОВЫ

*Гудэ, шаліе*
*віетёр зімовы,*
*утіхнэ трохі*
*і зноў вые,*
*жалём рвэце*
*нэвядомо куды,*
*дэрыва голы мучыт,*
*які нічого нэ скажут,*
*туолько тіхо застогнут,*
*што аж груді*
*холод прошывае...*
*віетёр зімовы —*
*і ты заколышэш*
*слонцем вэсны.*

* ✲ *

Прыдэ той час,
што пуйті туды трэба,
у новую краіну,
дэ ніхто шчэ нэ быў,
мінуті дорогі
і наўпрошчкі,
нэ дівітісь ны на кого,
пуйті самому
і найті сэбэ.

### Я — ЧАЛАВЕК

Больш не магу!! І я бягу мяжою
ў крывавых промнях гаснучага дня
паміж палёў абросшых збажынаю,
на якой села першая раса.

Бягу да той пясчанае дарогі,
каля якой, спыніўшы свой паром,
коўдру імглы накінуўшы на ногі,
бярозы спяць дзявочым лёгкім сном.

Калісьці там у голле ствалоў белых,
вясны пачуўшы радасны прыліў,
сэрца пусціў ў абтропках недаспелых
і ў лістве зялёнай утапіў.

Бягу, і палыню шчыкотка ў грудзі,
з мазгоў прагнаўшы прэч планеты бег,
мяне нядзельным звонам з явы будзіць,
утуліўшыся ў дзіцячы шчыры смех.

Вось і туман, і бусел жабы вудзіць!
Ды не відаць зялёных грыў бяроз...
І толькі пыл дарогі кажа: людзі
штодзень вязалі мяцёлкі з валос.

Стаю між пнёў і вецер песціць плечы
ды сон дзяцінства гоніць ад павек.
І я прыпомніў — мне ўжо дваццаць трэці
і гэтым пням цяпер я чалавек.

**М. Шаховіч**

* ✲ *

*Астань*
*яшчэ астань*
*перачакай растанні*
*затрымай*
*ноч*
*белу вышку*
*горстку лісця*
*з бяроз*
*не адыходзь*
*вітала*
*зорку раннюю*
*ў тваіх вачах*
*і сэрцы*
*пачакай*
*яшчэ табе скажу*
*іншая зорка*
*пурпур крыві*
*устае*
*абмытая*
*туманамі*
*а нашая*
*была цудоўнай*
*золатам пратканая*
*перачакай*
*расстанні*
*яшчэ табе*
*скажу*
*ноч дзень*
*заходы...*

**Вераніка Леанюк**

* ✲ *

Калі ў парках перагорвае восень,
Калі дажджамі плача лістапад,
Лісты апошнія, бы цяжкае калоссе,
Ў зямлю халодную вяртаюцца назад.
І зноў мне хочацца, каб хтось мяне чакаў
У цёплай хаце, з цеплынёю слоў,
У сумны вечар каб не дакараў,
Што доўга не вяртаюся дамоў.
І каб агонь гасцінны ружавіў
Рукі ў бясслоўнай гутарцы сваёй,
А я каб, бы дзіця, шчаслівы быў,
Дажджлівай, восеньскай парой.
Хай непагадзь скавыча за вакном,
Я зноў спакойны, зноў жыву,
І каб сапраўды гэта наш быў дом
І ўсё сапраўднае, ўсё наяву.
Калі дажджы — чорт ведае каму
Дні, бы лісты, ляцяць, ляцяць,
Я нанава, не ведаю чаму,
Адзін, бязрадны, як дзіця.
І зноў мне хочацца, каб хтось мяне чакаў
У цёплай хаце, з цеплынёю слоў,
У сумны вечар каб не дакараў,
Што доўга не вяртаюся дамоў.

**Кастусь Бандарук**

## Нядобрае пісьмо

*Павянулі кветкі*
*— чаму не цвітуць вечна...*
*скончылася каханне*
*— чаму не вечнае???*

*даляцеў ты*
*як птушка восенню*
*далёка... далёка...*
*які быў жаль...*

*дні*
*як кроплі дажджу*
*беглі беглі*
*адзін даганяў другі*

*забыла... забыла...*

*твае вочы*
*твой нос і губы*
*забыла*

*(раз прысніўся мне ты*
*нам было так добра*
*ішлі мы разам*
*зялёная трава кветкі*
*вецер спяваў...)*

*гэта быў сон*
*ты далёка*
*а рукі кароткія*

*начамі... ах... начамі*
*да падушкі прытулялася*
*— адзін смех*
*плылі дні*

*мы спаткаліся*
*дажджом плакала неба*
*шукала я*
*радасці*
*ў пустых кішэнях*
*баючыся праўды*
*шукала*
*не знайшла — пустыя*

*Вечная Дарога*
*адзін прыпынак два тры...*
*пройдуць гады...*
*буду ісці пустыняй*
*заўсёды пад вецер*
*злавесны вецер.*

**Ірэна Баравік**

## АД ПРАДВЕСНЯ ДА ЗАЗІМКА

*„Егда литва съ ятвязи въ рускія княженія внидоша и добычи велія поимали, собрася на нихъ Романъ, и съ корыстію въ дебри бежащихъ настиже... и поима множество, и работы тяжкія имъ творяше...“*

*(М. Стрыйкоўскі, „Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі“)*

Бацьку ў родны Мельнік прыганяла толькі веснавая полая вада. Спачатку ён ад'ядаўся ды непрасыпна спаў цэлымі днямі. Маці з самага ранку гнала дзяцей з дому, каб ля палацей не валтузіліся і зморанаму далі адпачыць. Сама ж, з большага абтупаўшы дабытак, увесь дзень ля палаючай печы завіхалася. І нёсся тады па ўсяму пасаду, а мо нават і ў цвердзь мельніцкую трапляў, смакавіты пах апалькаў, калачоў ды печанай у цесце рыбы. У агромністым сагане лянiва булькала крутая грычаная каша, а побач у гаршках даспявалі іншыя прысмакі. Бо бацька дамоў усё ж з пустымі рукамі не прыходзіў. Князеўскія цівуны хоць да работы борзда гналі, але гароднікам за іх старанні пры стаўлянні новых цвердзяў, мастоў ці завальванні засекаў на рубяжах княства заўсёды якаясьці там спажыва перападала. Бо такі ўжо звычай быў, што гародніку пры закладванні новай цвердзі або нават сцяны пры старым умацаванні належалася некалькі грывен. На заканчэнне работы вянковае таксама цівун ставіць мусіў. Ды і пакуль ішла работа, у канцы кожнага тыдня, нейкая там плата і харчы з рукі цівуна, хоць і скупавата, але ўсё ж адпускаліся. Таму і ў каліце, што на раменьчыку на бацькавых грудзях пад адзежай матлялася, сякі-такі пенязь заводзіўся ды і ў падарожных мяхах мукі, крупы ды іншай жыўнасці нешта адкладалася.

У такую пару, бывала, дзяцей з берагу Буга і не даклічашся. Але калі вяртаўся бацька, уся гаманлівая чародка круцілася непадалёк ад дзвярэй хаты, каб не празяваць матчынага кліку ісці есці.

Паволі паўнеў і акругляўся бацькаў твар.

Падымалася вышэй сонца. Звінелі ад птушынага разнагалосся бужанскія лазнякі і навакольныя лясы.

Цяпер нават і маці не ахвоча была таўчыся ў прадымленай і цёмнай, без адзінай адтуліны, хаце.. Цэлымі днямі, з драўлянай лапатай у руках, яна разам з дзеўчыняткамі корпалася ў гародзе на градах. Садзілі боб, цыбулю, часнок, буракі, сеялі расаду.

Роўна клалася баразна за сахою. Бацька спыняў валы і пільна ўглядаўся на свежую раллю. Згадваў: мокры ці сухі год будзе. Бо калі веснавы ветрык шпарка скібу сушыць, значыць, макрэчы ўлетку спадзявайся. Прыкідваць трэба, дзе і што сеяць варта, каб не вымакла ці не высахла.

А хлопцы і на крок ад ратая не адступалі. І тады, калі паламаны нарог сахі бацькавы вузлаватыя пальцы спраўна ладзілі і калі валы на бужанскай пойме траву старанна вышчыпвалі. А ўсё каб з бацькам любым як мага даўжэй разам быць ды пачуць безліч цікаўнасцей пра свет

(Працяг на стар. 4)

### СВЯТЛО СЭРЦА

Свячу
святлом сэрца
каб ачуняла
сонца ветлівасці
на тонкіх валокнах
адчаю
А на гарачых далонях
птушкаю трапечацца
компас радасці
Каб праўдзе
паказаць сляды
вечна жывой
вялікай мудрасці
у абдымках хараства
чалавечай душы.

**Л. Танкевіч**

* ✲ *

*Слова сказаць — і адчапіцца*
*Ад камарыных пустазвонаў!*
*Па кудрах мяккае травіцы*
*Гуляць мне з ветрыкам зялёным.*

*І ўсё ж не тое, аб чым марыў.*
*Імгненні, дні, гады праходзяць...*
*Ў жоўтай рубашцы мне да твару,*
*Клён-бацюшка дае мне споведзь...*

*Калісь цябе, бывала, шчасце,*
*У той блакітненькай сукенцы,*
*Кахаў, не ведаўшы праклянцця,*
*Калісь мы пасадзілі дрэўцы.*

*Шуміць мой клён, твая таполя...*
*А я зрадніўся ўжо з зямлёю.*
*Кожна бяроза — твая постаць.*
*Каханне, што ж гэта такое? —*

*Лавіць вачэй таемну просінь*
*І цветам асыпаецца к долу,*
*І залаціцца ў шэру восень,*
*І ўваскрасаць белай зімою.*

*Ляглі маршчыны ўжо на твары.*
*Мая ты мілая Ганулька,*
*Не салавей на свеце царыць*
*І не пакутліва зязюлька.*

**Ул. Гайдук**

# Ад прадвесня да зазімка

(Працяг са стар. 3)

белы, які ўсё ж не канчаецца на гары Ушэсця за Мельнікам.

Бацька не аднекваўся.

Хлопцы даведаліся, што з Мельніка ў Горадна дзён пяць трэба прабірацца па шляху небяспечным, бо цераз пушчы ды багны, дзе туры і зубры на выгалках цэлымі стадамі пасуцца, а вакол іх мядзведзі ды воўчыя выводкі шляюцца. Бліжэй да стада, праўда, не падыходзяць — турыныя ды зубрыныя рогі і капыты надта ж вострыя. Але калі два самцы зубры ці туры ў бойку паміж сабою кінуцца і барукаюцца дзён пару, пакуль адзін з іх з паламанымі касцямі на зямлю не ляжа, тады мядзведзям ды ваўкам раскоша вялікая. Паўшаму ляснову волату і сканаць сваёй смерцю не дазволяць — жыўцом на часткі разарвуць. Таму і зважаць трэба, каб ненарокам на такі баль не наткнуцца. На лёгкую спажыву лясныя драпежнікі з паўпушчы звалакаюцца, пачуўшы баявы роў раз'юшаных быкоў. Пры нагодзе каня зарэзаць могуць і чалавека на часткі разнесці. Не лепш яно і як на старога зубра-самотніка або на зубрыху з цяляткам натрапіш. Скачы, як дуж з каня на дрэва. Тады і конь без ездака можа ўратавацца і ты на галіне адседзішся, пакуль раззлаваны звер супакоіцца і пойдзе сваёй дарогай. А ўжо пад поўню другога месяца пасля Каляд зусім нельга ў пуць пушчанскі совацца. Гэта час, калі ваўкі руяцца ці інакш — вяселлі свае воўчыя спраўляюць і кожнага неразважлівага вандраўніка на закуску сабе зарэжуць.

— Яно то горш за звера пушчанскага ўсё ж яцвягі, — разважаў уголас бацька. — Са сваіх стойбішчаў, што за ракою Бебраю, над азёрамі параскіданы, на куцых лясных коніках прыбываюць і ўвесь год ля ракі Супраслі валэндаюцца. Мала-веле на звера палююць ці пчаліныя борці выдзіраюць. А больш за ўсё пры гасцінцах круцяцца, путнікаў ды гасцей-купцоў падсцерагаюць. Калі ім пападзешся, лічы, што дамоў не вернешся. Ні то што з усяго абдзяруць, але і ў няволю-работу запалоняць. Тады або ў іх Судовіі-Яцвягіі на непасільнай працы сканаеш, або прададуць цябе ў вечную няволю аж за мора за Варажскае, у якое то якраз і нашы Буг ды Нарва свае воды коцяць. І біцца з яцвягамі цяжка. Ты ў яго стралою ці кап'ём, а ён — скок у гушчавіну. Ты — за ім, а ён, бы здань, паміж дрэвамі расплыўся. Гонішся за ім следам і бач — перад табою ўжо не яцвяг, а воўк бяжыць. Ты яго — рагаціною, ды лязо замест у звера, у спарахнелую елку ўтыркнулася. А воўк тут жа зноў у яцвяга абярнуўся і табе пятлю з лязіва на шыю закідвае...

Ад такіх росказняў у дзяцей мароз па спіне хадзіў, і дзе-якое з жахам на суседні лес паглядала ці часам адтуль не высоўваецца яцвяг на сваім палавым кані.

Бацька, звочыўшы, што залішне малалеткаў страхамі пераняў, усміхаўся:

— Чаго вы вочы, бы яблыкі, на лес паставілі? Цяпер наш князь Раман Мсціслававіч*) моцна дзержыць зямлю паміж Супраслю і Бебраю. Сілу цвердзяў ды вежаў на грані з яцвягамі панастаўляў. Харобрых вояў сваіх у іх пасадзіў. Днесь не то што яцвяг, але і мыш з-за бебранскіх багнаў у наш бок не прашмыгне. Колькі ж цяпер гэтых яцвягаў ды літоўцаў у нашым палоне! Карчуюць вунь пушчу над Супраслю і Сакалдою, аж пыл курыць. Не браць ім цяпер нас у няволю!

І праўда, што яцвягі не такія ўжо і страшныя. Вось хоць бы ў Мельніку, пры цвердзі, ёсць загон з яцвяжскімі ды літоўскімі нявольнікамі. Людзі яны, як людзі. Толькі доля іх незайздросная — з дня ў дзень наглядчыкі гоняць іх на работу. Новы вал вакол цвердзі сыплюць, валуны-каменні на гару ўкочваюць ды зямлю мяхамі носяць. А ўночы трымаюць іх з нагамі, закаванымі ў дубовыя калоды. Спрабуй уцячы!

Аленем гонкім прабягала лета.

Пасля першых замаразкаў у хату з'яўляўся князеў цівун. Бацька, не спяшаючыся, вастрыў шырачэзнае лязо свайго дойлідскага тапара. Маці ж потайчы змахвала з веек слёзы і ладавала рознай снеддзю ды вопраткай бацькавы падарожныя мяхі.

Наставалі доўгія зімовыя ночы.

У бужанскіх лозах свае галодныя песні выводзілі ваўкі, а ім, дзецям, здавалася, што гэта яцвягі-ваўкалакі рыхтуюцца напасці на мельніцкія пасады. Шпарчэй тады кідалі ў печ смалістыя паленні. Віхор не даваў ходу для дыму, і ўся хата патанала ва ўдушлівай хмары. Маці і старэйшая сястра не выпускалі з рук верацён. На палацях дзеці збіваліся ў цесны гурт і, прыкрыўшыся гунькамі ды світамі, засыналі трывожным сном.

**Мікалай Гайдук**

---

*) *Раман Мсціслававіч (нарадзіўся каля 1150 года) сын князя Мсціслава Ізяслававіча, які валодаў Уладзіміра-Валынскім княствам, і княгіні Агнешкі, дачкі князя польскага Баляслава Кшывавустага. Уславіўся энергічнымі дзеяннямі, накіраванымі на гаспадарчае развіццё і ўмацаванне граніц Галіцка-Валынскай Русі. Загінуў у бітве ў 1205 г.*

# Навукова—папулярная

**14** сакавіка гэтага года ў сувязі з дваццацігоддзем Беларускага грамадска-культурнага таварыства праўленне навуковага гуртка пры Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку арганізавала навукова-папулярную сесію, якая прысвячалася пытанням грамадска-культурнага жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Удзельнічалі на сесіі запрошаныя асобы: Станіслаў Парадзынскі — намеснік начальніка грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў у Варшаве і Уладзіслаў Канстанчук — дырэктар аддзялення ўнутраных спраў Ваяводскай управы ў Беластоку.

Перад сесіяй старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік запрасіў прысутных на ўрачыстае адкрыццё выстаўкі дасягненняў таварыства на працягу дваццаці год існавання.



*Дакладчыкі (злева направа) Ю. Туронак, В. Швед і С. Яновіч.*

На сесіі былі прадстаўлены тры даклады: „Дагэтуляшняя дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства і перспектывы яго далейшай дзейнасці“ Сакрата Яновіча, „Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд“ Юрыя Туронка і „Беларускі літаратурны рух у Народнай Польшчы“ Віктара Шведа.

Пасля выступлення дакладчыкаў адбылася дыскусія.

Дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім Аляксей Карпюк, настаўніца беларускай мовы з пачатковай школы ў Трасцянцы Галена Тапалянская, намеснік дырэктара школы ў Орлі Анатоль Мартыновіч, аўтар падручнікаў па беларускай мове Баляслаў Манкевіч выказалі свае думкі аб справах, звязаных з навучаннем беларускай мове. Сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк сваё выступленне прысвяціў дасягненням БГКТ.

На ўсе заўвагі, пытанні і прапановы адказваў старшыня Галоўнага праўлення таварыства Мікалай Самоцік.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага.**



*Удзельнікі сесіі глядзяць выстаўку БГКТ-оўскіх кніжных выданняў.*

# Лепшыя дарогі

Добрая дарога гарантуе не толькі прыемнае, але і бяспечнае падарожжа. Добра аб гэтым ведаюць жыхары гміны Боцькі. Яны ў мінулым годзе добраўпарадкавалі 3 800 метраў мясцовых дарог. На дарогу з Боцькаў да Староўсі (960-метровы адрэзак) навазілі жвіру і выраўнялі яго на ўсёй шырыні даволі шырокай жвіроўкі. Папраўлялася дарога з Секлюкоў у Смалюгі (амаль 2 км), якую таксама пасыпалі жвірам даволі значнай таўшчыні. Новы брук праклалі мясцовыя жыхары з Боцькаў у напрамку да вёскі Альшэва (950 м). Асабліва шмат працавалі пры пабудове дарог жыхары Секлюкоў і Дзяцінната. Іх праца пры рамонце дарог была ацэнена ў 620 тыс. зл. (ва ўсёй гміне пры пабудове і рамонце дарог выканана грамадскіх чыноў на суму 745 тыс. зл.).

Цяпер на дарогах Боцькаўскай гміны намнога выгадней ды нават хутчэй можна ездзіць усім матарызаваным.

Таму выбраныя прадстаўнікі шырокага насельніцтва з гміны звярнуліся да адпаведных улад, каб адкрыць аўтобусную лінію: Якубоўскія-Альшэва-Верцэнь-Гаўрылкі-Шумкі. (ця)




*У Гайнаўцы ў сталовай на вуліцы Бучка каля акна стаіць „музыкальная шафа“. Кінеш у яе некалькі злотых — і па твайму жаданню шафа праспявае нешта музыкальнае. Але прайшло ўжо нямала часу, як інструмент „заганарыўся“: грошы прымае, а спяваць не хоча. Немата „шафы“ — вялікая ўцеха для афіцыянтаў: смяюцца з новых наведвальнікаў, якія кідаюць у шчыліну сапсаванай „шафы“ свае грошы, не атрымаўшы ні музыкі, ні грошай.*

**П. Дубовіч**

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XIV

**Лірыка кахання.** Светлыя і аптымістычныя настроі, выступаючыя ў разгледжаных намі вершах, не з'яўляюцца адзінымі ў лірыцы кахання Гартнага. Знаходзім у ёй такія вершы, як „Не спявай“ і „Ноччу“, у якіх няма і следу той бесклапотнасці і той прыгожай наіўнасці, якая акрэсліла настрой папярэдніх твораў. Што было самым характэрным для філасофіі закаханага героя, выступаючага ў тых вершах, якія мы ўжо разгледзелі? Вера! Вера ў тое, што каханне — гэта бязмежнае шчасце, што каханне ўпрыгожвае і закаханых і акружаючы іх свет, што каханне ўводзіць лад і гармонію паміж чалавекам і прыродай. Вось іменна такім прынцыпам пярэчыць верш „Не спявай“:

*Не спявай у садзе, салавей залётны,*
*Не трывож ты песняй ціхага спачынку,*
*Ўчора ты і сёння роўна бесклапотны,*
*А ва мне ўскрашаеш нудныя ўспамінкі.*
*Твае песні ў душу рвуцца няўпынна*
*І катуюць сэрца мукамі без меры:*
*Я перажываю сёння гадавіну —*
*Ўтратак беззваротны той глыбокай веры,*
*Якой жыў ўсім целам, якой жыў душою,*
*Ў якой дні міналі, быццам тыя хвілі,*
*У жаданні ззялі яснаю зарою*
*На маім пасмуглым, хмурным небасхіле...*
*Ты пяяў на раллях шатнае бярозы*
*Той заклятай ноччу першаю гадзінай,*
*Калі абмачылі мае вусны слёзы*
*Ад мяне забранай роднае дзяўчыны...*

Як бачым, у гэтым вершы парушаны адзін з прынцыпаў папярэдніх вершаў Гартнага. Няма ў ім гармоніі паміж закаханым чалавекам і прыродай. Калі раней у закаханага героя ўсе элементы і з'явы прыроды выклікалі адабрэнне і захапленне, дык тут становяцца прычынай горычы, смутку і прэтэнзій. Аднак прэтэнзіі героя да салаўя тут, па сутнасці, уяўныя. Салавей у вершы — гэта толькі прадлог. Істота верша, яго інтрыгі, яго канфлікты і яго „драмы“ ў тым, што ў мужчынска-жаночай пары кахае толькі адзін. У даным выпадку кахае ён, а перастала кахаць яна. Значыць, не можа быць гутаркі аб гармоніі, аб шчасці.

Характэрны для настрою верша і яго загаловак „Не спявай“. Як вядома, каханне — гэта, па сутнасці, сінонім спеву і гармоніі. Тут, наадварот, герой прагне цішыні і маўчання. У стылістычным сэнсе верш „Не спявай“ належыць да песеннай лірыкі. Трэба падкрэсліць, што не чужыя яму элементы меладрамы. Такія фразы, як „І катуюць сэрца мукамі без меры“, „Калі абмачылі мае вусны слёзы“, „І слязою горкай ў адзін міг абліўся“ — уводзяць у верш настрой меладраматычнасці, слязлівасці. Пры гэтым аднак верш падкупае шчырасцю пачуцця, рэгулярнасцю паэтычнага радка, спеўнасцю і эмацыянальнасцю.

Апошнім творам з цыкла кахання з'яўляецца верш „Ноччу“. Калі верш „Не спявай“ мы назвалі меладрамай, дык верш „Ноччу“ можам назваць сапраўднай драмай. У гэтым творы, як і ва ўсіх папярэдніх з цыкла кахання, выступаюць побач з чалавечымі пастацямі элементы прыроды.

Змест верша не складаны. Апавядаецца ў ім аб пакінутай хлопцам дзяўчыне, якая ідзе на бурлівую рэчку і топіцца ў ёй. Змест просты, але прадстаўленая ў ім чалавечая драма складаная і глыбокая. Усе драматычныя падзеі верша разыгрываюцца ў начной сцэнерыі. Спадарожнічаюць ёй шумны вецер, бурлівая вада, палахлівыя шэпты лісцяў. Усе гэтыя рэквізіты разам з хуткім ходам падзеі, напружанасцю настрою і драматычным заканчэннем набліжаюць верш „Ноччу“ да класічных узораў балады.

Канчаючы інфармацыю аб лірыцы кахання ў творчасці Гартнага, прагнем падкрэсліць, што выступаюць у ёй элементы ідылічныя і драматычныя. Другой характэрнай рысай гэтай лірыкі з'яўляецца тое, што няма ў ёй вобразаў і сітуацый, якія называем эратычнымі. У характарыстыцы жанчыны цікавіць Гартнага перш за ўсё комплекс спраў духоўных, а не цялесных.

ЛЮДЗІ БГКТ

# АНАТОЛЬ МАРТЫНОВІЧ

Настаўнікі, так як і бацькі, астаюцца ў памяці на ўсё жыццё ў кожнага чалавека. З імі звязана дзяцінства і маладосць, наша адукацыя і фармаванне характару.

Анатоль Мартыновіч ужо 19 год працуе настаўнікам, 19 год выхоўвае маладое пакаленне. З вялікай пашанай і ўдзячнасцю гавораць аб ім у Клюковічах і Вульцы Нурэцкай, у Вілінаве і Орлі. Ён у гэтых мясцовасцях узначальваў школы, у якіх дзякуючы яго ўплыву настаўніцкі калектыў заўсёды быў дружны і на высокім узроўні выконваў свае абавязкі.

Анатоль Мартыновіч заўсёды многа ўвагі ўдзяляў культурным справам. У Вульцы Нурэцкай ён — ініцыятар будовы грамадскім чынам святліцы, а ў Вілінаве — дома культуры, пры якім прыйшлося яму асабіста затрачваць шмат часу, уладжваючы розныя справы. А калі ўжо гаварыць аб ролі арганізатара культурнага жыцця, дык яго асоба вырашала ўсё. Ён умеў згуртаваць моладзь і ўтварыць тэатральны альбо харавы калектыў. Асабліва харавыя калектывы карысталіся тут вялікай папулярнасцю. Свайго часу ў Вульцы Нурэцкай, а пасля ў Вілінаве харавыя калектывы пад яго мастацкім кіраўніцтвам выступалі на фэстынах і на шматлікіх урачыстасцях, нават у далейшых мясцовасцях. Больш 100 выступленняў адбылося пад яго ўпраўленнем. Вілінаўскі мастацкі калектыў за свае выступленні сабраў нават каля 30 тысяч злотых і пераказаў іх на будову свайго дома культуры.

Варта адзначыць і тое, што Анатоль Мартыновіч прывіваў любоў да свайго, беларускага, умела падбіраў рэпертуар, у якім пачэснае месца займалі беларускія сучасныя і народныя песні.

Анатоль Мартыновіч больш 15 год узначальваў сямяціцкі аддзел Беларускага таварыства, аддаючы яму шмат сіл і энергіі. З'яўляецца ён таксама здаўна членам Галоўнага праўлення БГКТ. Сваімі выступленнямі на нарадах, пленумах і з'ездах узбагачаў дыскусію ў тых ці іншых пытаннях.

Як адзін з перадавых дзеячоў БГКТ у 1969 годзе Анатоль Мартыновіч быў узнагароджаны „Залатым Крыжам Заслугі".

Цяпер Анатоль Мартыновіч працуе ў Орлі на пасадзе намесніка дырэктара гмінных школы. Жыве ўсімі складанымі асветнымі і выхаваўчымі справамі ўсіх школ у гміне, у якіх навучаецца 778 дзяцей.

Апрача таго, знаходзіць ён час весці аграмадную грамадскую дзейнасць. Ён старшыня гміннага праўлення ТШПР, старшыня гміннай прысуднай камісіі, старшыня гміннага камітэта ОРМО, старшыня гміннага таварыства свецкай школы і, найважнейшае, сакратар прапаганды гміннага камітэта ПАРП. Партыйная дзейнасць Анатоля Мартыновіча даволі багатая. Яшчэ ў Вульцы Нурэцкай быў ён сакратаром ПОП, пасля на працягу 13 год сакратаром ПОП у Вілінаве, а пасля — першым сакратаром грамадскага камітэта ПАРП у Клюковічах. Ранейшы вопыт у партыйнай працы дапамагае яму належна выконваць цяпер функцыю гміннага сакратара прапаганды, якому штодзённа даводзіцца ажыццяўляць пастановы VII з'езду ПАРП і знаёміць сваё асяроддзе з прынятым планам развіцця нашай краіны.

Анатоль Мартыновіч з'яўляецца прыкладам таксама ў сямейных справах. Ён добры муж і бацька дваіх дзяцей. Жывуць Мартыновічы ў дасканала абсталяваным доме, які самі пабудавалі. Мартыновічаў у Орлі шануюць, таму, што людзі гэтыя ветлівыя, гасцінныя і сардэчныя. Усюды, дзе яны працавалі і працуюць, можна пачуць толькі прыемныя, пахвальныя словы.



**Міхась Хмялеўскі**
Фота Я. Цялушэцкага.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ЛЕМЕШЫ

Яшчэ тры гады таму назад Лявон і Люба Лемешы нічым не выдзяляліся сярод жыхароў Кашалёў, што знаходзяцца ў гміне Орля. Так, як у кожнага селяніна, і ў іх галоўнай апорай жыцця была зямля, якой яны маюць 10 га. Так, як і ўсе: аралі, сеялі і дабіваліся ўсё большых пладоў з сваёй працы. Але захацелася жыць інакш, захацелася пайсці другой, больш плённай дарогай, гэта значыць, выбраць нейкі напрамак. І выбралі жывёлагадоўлю. Праўда, займаліся ўжо яны гадоўляй свіней, але не была яна так шырока разгорнута. Цяпер пабудавалі вялікі кароўнік, у якім знаходзіцца 19 чатырохногіх жыхароў, з чаго 13 штук прызначана на продаж дзяржаве. Што ж гэта за штукі? Перш за ўсё букаты. Гадуюць іх датуль, пакуль вага не перакрочыць 400 кілаграмаў. Потым прадаюць, а на іх месца купляюць малых. І так гэта паўтараецца кожны год. Апрача тых, што на продаж, гадуюць 6 кароў дойных, ад якіх кожны дзень адносяць на пункт скупу амаль па 60 літраў малака.

Малако кантрактаванае. Шэсць кароў — гэта ж многа і, як на адну жанчыну, працы шмат. Даіць жа трэба. Аднак нашыя гаспадары, дзеля аблягчэння, купілі электрычную даілку.

Гэты новы напрамак адразу ўвёў змены ў апрацоўку зямлі. Зразумелая рэч. Корм жа патрэбны. З увагі на гэта Л. Лемеш 5 га зямлі засеяў травой, а даволі вялікую частку астатняй прызначыў пад вырошчванне раслін, якія служаць потым як корм. Калі рэч ужо ідзе аб гэтым, то трэба сказаць, што кожны год Лемешы робяць травяныя сіласы. Вось, прыклад, у гэтым годзе прызначылі на гэта траву з 0,80 га. А што з астатняй травой? Сушаць яе на сена. І тут гаспадар увёў вялікае ўляпшэнне. Уставіў ён у стадоле вентылятар, які дасушвае тое сена, якое з увагі на пагоду не змог дасушыць на лузе.

Апрача жывёлагадоўлі, надалей гадуюць свіней, якіх кантрактуюць і здаюць дзяржаве. У сувязі са спецыялізацыяй Лемешы пачынаюць уводзіць новыя машыны, на чале якіх стаіць трактар.

— З голымі рукамі не навоюеш, — гавораць яны. — А мы ж думаем павялічыць сваю жывёлагадоўлю.

І сапраўды, без машын нічога не зробіш.

**М. Ш.**

Ф·А·Л·Ь

БЫТ




*По садочку хожу я, хожу,*
*руту-мяту сажу я, сажу.*
*Ой, рута-мята той не прынялася —*
*родінонька одхілілася.*
*Ой, рута-мята той не прынялася —*
*родінонька одхілілася.*
*Ой, я чую, чую прэз людi,*
*што братішок у гостенькі едзе.*
*Ой, рано ўстала, устала-дожыдала —*
*воротечок не зачыняла.*
*Ой, рано ўстала, устала-дожыдала —*
*воротечок не зачыняла.*
*Воротечок не зачыняла.*
*усю я ночку сама не спала.*
*Ой, ночка цёмна той зорэнька ясна —*
*а, доленька моя нішчасна.*
*Ой, ночка цёмна той зорэнька ясна —*
*а, доленька моя нішчасна.*

Ад Веры Паповай, 1932 г. нараджэння, г. Беласток, якая навучылася гэтай песні ад сваіх матулі, бабулі і цёткі, што жылі ў вёсцы Гнецюкі каля Заблудава, запісаў 20 кастрычніка 1975 г. М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі — Л. Панько.

Гартаючы кніжкі

## Беларускі кніжны знак

Сёння, бадай, няма хаты без кніжкі. Многія збіраюць і маюць свае ўласныя бібліятэкі. Уладальнікі дамашніх бібліятэк упрыгожваюць свае кнігі экслібрысамі. Таму, напэўна, многіх зацікавіць невялікая, але вельмі прыгожая і цікавая кніжка, выдадзеная выдавецтвам „Беларусь".

Кніга пазнаёміць вас з папулярным відам беларускай малой графікі — экслібрысам. Аўтары — А. Тычына і В. Шматаў — паказваюць характэрныя асаблівасці беларускага кніжнага знака, разнастайнасць яго тэматыкі і тэхнікі выканання.

Кніга вельмі прыгожая. Не, гэта не агаворка. Бо малая, кішанковага фармату, на крэйдавай паперы, вельмі ахайная і густоўная. Тэкст кнігі на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Багата ілюстравана — 129 кніжных знакаў розных аўтараў. У канцы ёсць „Паказальнік ілюстрацый" і „Бібліяграфія", „Паказальнік выканаўцаў кніжных знакаў", а таксама „Пералік выставак, на якіх экспанаваліся беларускія кніжныя знакі". Праўда, у дадзеным спіску названы толькі галоўныя, асноўныя выстаўкі, на якіх маюцца каталогі. Але і ён яскрава сведчыць аб тым, што беларускі экслібрыс набыў шырокую вядомасць у краіне і за яе межамі. Беларускі экслібрыс браў удзел у выстаўках кнігі ў Маскве і іншых гарадах Савецкага Саюза. Ён прадстаўляў беларускую малую графіку ў Венгрыі, Польшчы, Фінляндыі, Югаславіі, на міжнародных выстаўках у ЗША (Лос-Анджэлес), Японіі (Асака), ГДР (Берлін, Лейпцыг) і інш.

Трэба адзначыць, што ў апошнія дзесяцігоддзі ўвогуле ўзрасла цікавасць да эстампнай графікі, а асабліва да беларускай. Між іншым, аб гэтым можа сведчыць і той факт, што кніга „Беларускі кніжны знак" у момант згінула з кніжных паліц Шлёнска. Хто набудзе яе, не пашкадуе.

**Ул. Малашкевіч**

# ВУЧНЁЎСКІЯ КААПЕРАТЫВЫ

На Гайнаўшчыне існуе 28 вучнёўскіх кааператываў. Яны працуюць ва ўсіх тыпах школ. Гэтая праца ацэньваецца вельмі добра. Не так даўно была ацэнка працы ў кожнай галіне за 1975 год. Аказваецца, што гэтая праца штодзённа дае лепшыя вынікі. На 7040 вучняў у гэтых 28 школах, 3213 вучняў з'яўляецца членамі вучнёўскіх кааператываў. Яны вядуць 28 пунктаў продажы тавараў, 5 сельскагаспадарчых палеткаў, 7 пунктаў розных паслуг, 10 пунктаў продажы макулатуры, жалеза і шкляннога посуду. 14 кааператываў дапамагае ў абедах вучням, 4 вядуць ашчадныя касы. Усе займаюцца культурна-асветнай дзейнасцю і іншымі грамадскімі працамі. Асабліва вылучаюцца тут сярэднія школы з Гайнаўкі, якія прывозяць суп вучням з гайнаўскай гастраноміі.

У радах вучнёўскіх кааператываў працавалі ў мінулым годзе 222 вучні. Працай кіравалі 133 асобы, 767 былі заняты іншымі абавязкамі. У школьных крамах прайшло сваю спецыялізацыю 253 вучаніцы і вучні. Яны выявілі вялікую адказнасць за грамадскае дабро. У вучнёўскіх кааператывах не існуе справа недабораў. Рэвізійныя камісіі правялі 191 кантроль, які выказаў правільную гаспадарку моладзі. А варта адзначыць, што было чым гаспадарыць. У 1975 годзе агульныя фінансавыя абароты дасягнулі суму 2.353.911,89 зл. Агульнае дабро вучнёўскіх кааператываў ацэньваецца на 609.624,89 зл. Гэтая сума расце з году ў год. Толькі ў мінулым годзе маладыя кааператыўшчыкі выпрацавалі каля 123 000 зл. чыстага даходу, які адпаведна падзялілі на свае патрэбы. Больш за ўсё прызначана грошай на экскурсіі і культурна-асветную дзейнасць, Цэнтр здароўя дзяцей і іншыя грамадскія справы.

Надзвычай адказную функцыю выконваюць настаўнікі, якія апякуюцца гэтымі кааператывамі. Гэта апека — іх грамадская праца. Многа настаўнікаў працуе ў гэтай галіне грамадскай дзейнасці больш чым па 10 год, а нават звыш 20 год. Там, дзе добра, актыўна і ахвярна працуе настаўнік, там добрыя вынікі дзейнасці вучнёўскага кааператыва. Да найбольш выдатных настаўнікаў залічваюцца: П. Панецкая з Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы, П. Рушук з Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы, Р. Масілевіч з Грабаўца, Оля Семяняка з Нараўкі, Янка Іванюк з Нарвы, Таіса Бахмат з Кляшчэляў і іншыя.

Дапамагаюць таксама дарослыя. Цікавыя формы супрацоўніцтва выйшлі ад ГС і ВСС. Супольныя сустрэчы і абмены дасягненнямі дапамагаюць у развіцці лепшай дзейнасці. Многа ініцыятывы ўнеслі маладыя кааператыўшчыкі ў сваю працу праз конкурсы, у якіх першыя месцы занялі ліцэі ў Гайнаўцы і Сельскагаспадарчая школа ў Кляшчэлях.

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што маладыя кааператыўшчыкі на Гайнаўшчыне добра выканалі заданні 1975 года.

**Аляксандр Закройшчык,**
Нараўка

